ІРЫНА КАРНІЦКАЯ,
МАЦІ БАРАНАВІЦКАГА АКТЫВІСТА БХД



СКАРДЗІЦЦА ПРАКУРОРУ НА СУПРАЦОЎНІКАЎ ГАУС

СТАР. 2

веснік ПРАВААБАРОНЧЫ

№ 12 (20) 12.2013

ПАЛІТВЯЗЕНЬ МІКАЛАЙ СТАТКЕВІЧ НАКІРАВАЎ ДРУГІ ЗВАРОТ

Ў КАМІТЭТ ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА АРГАНІЗАЦЫІ АБ'ЯДНАНЫХ НАЦЫЙ



СТАР. 3

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

ЗАЯВА

# FIDH І ПЦ "ВЯСНА" ПАТРАБУЮЦЬ НЕАДКЛАДНАГА І БЕЗУМОЎНАГА ВЫЗВАЛЕННЯ МІКАЛАЯ СТАТКЕВІЧА І ІНШЫХ ПАЛІТЗНЯВОЛЕНЫХ

## Парыж-Мінск, 19 снежня 2013

Тры гады таму, 19 снежня 2010 года, услед за сілавым разгонам мітынгу пратэсту на плошчы Незалежнасці ў г.Мінску рушыў шэраг арыштаў, затрыманняў і пераследу прадстаўнікоў апазіцыі, актывістаў і грамадзянаў, якія бралі ўдзел у мірных дэманстрацыях у сталіцы Беларусі. Многія з іх пасля падвергліся судоваму пераследу, уключаючы некалькі кандыдатаў у прэзідэнты. 19 снежня быў затрыманы і кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, апазіцыйны палітык Мікалай Статкевіч, які і па сённяшні дзень застаецца ў зняволенні.

26 траўня 2011 г. судом Ленінскага раёна г. Мінска Мікалай Статкевіч быў асуджаны да 6-ці гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму па ч. 2 арт. 293 КК Рэспублікі Беларусь. На дадзены момант Мікалай Статкевіч адбыў палову вынесенага яму тэрміну зняволення.

Прадстаўнікі беларускіх праваабарончых арганізацый, якія праводзілі маніторынг судовага паседжання, прыйшлі да высновы, што ў ходзе судовага паседжання не была даказаная віна Мікалая Статкевіча ў здзяйсненні інкрымінуемых яму дзеяў - арганізацыі масавых беспарадкаў альбо непасрэднага кіраўніцтва і ўдзелу ў іх. Судовае разбіральніцтва не адпавядала стандартам незалежнага і бесстаронняга разгляду. Праваабарончыя арганізацыі таксама выказалі нязгоду з кваліфікацыяй уладамі падзеяў,якія адбыліся 19 снежня 2010 г.,як масавых беспарадкаў, а празмернае прымяненне сілы органамі правапарадку Беларусі і рэпрэсіі, якія рушылі за гэтым,выклікалі рэзкае і адназначнае асуджэнне міжнароднай супольнасці.

Як афіцыйна зарэгістраваны ў ЦВК Беларусі кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч сапраўды неаднаразова заклікаў грамадзянаў краіны прыняць удзел у мірнай дэманстрацыі пратэсту і выказаць сваё меркаванне з нагоды мінулых выбараў прэзідэнта Беларусі і ўдзелу ў іх Аляксандра Лукашэнкі, які знаходзіцца ва ўладзе з 1994 года.

FIDH і ПЦ «Вясна» адзначаюць, што права на мірныя сходы гарантавана як Канстытуцыяй Беларусі, так і міжнароднымі нормамі права ў галіне правоў чалавека.

19 чэрвеня 2011 года Рабочая група па адвольных затрыманнях пры Савеце па правах чалавека ААН вынесла рашэнне, што пазбаўленне волі М. Статкевіча з'яўляецца адвольным і парушае арт. 9 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і арт. 9 Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, ратыфікаванага Рэспублікай Беларусь. Рабочая група заклікала ўрад Беларусі прыняць неабходныя меры для выпраўлення сітуацыі, уключаючы неадкладнае вызваленне Статкевіча і выплату адэкватнай кампенсацыі.

Падчас адбыцця пакарання ў калоніі г. Шклова Мікалай Статкевіч неаднаразова падвяргаўся рознага кшталту дысцыплінарным спагнанням, у тым ліку змяшчаўся ў штрафны ізалятар (ШІЗА) і памяшканне камернага тыпу (ПКТ) з прычыны "злоснага парушэння рэжыму". 12 студзеня 2012 г. на закрытым паседжанні Шклоўскі раённы суд змяніў рэжым адбыцця пакарання Мікалая Статкевіча на больш строгі - тры гады турэмнага зняволення. На працягу ўсяго зняволення на Мікалая Статкевіча аказваўся ціск з патрабаваннем падпісаць прашэнне аб памілаванні, прычым з гэтай мэтай з боку адміністрацыі арганізоўваліся розныя правакацыі, у тым ліку пры выбары яго сукамернікаў.

FIDH і ПЦ «Вясна» лічаць, што пераслед Мікалая Статкевіча звязаны выключна з яго палітычнай дзейнасцю, у тым ліку з мірным ажыццяўленнем права на свабоду сходаў і меркаванняў, і мае на мэце выключна спыненне палітычнай дзейнасці Мікалая Статкевіча.

У сувязі з гэтым FIDH і Праваабарончы цэнтр "Вясна" патрабуюць ад уладаў Беларусі неадкладнага і безумоўнага вызвалення Мікалая Статкевіча, а таксама іншых палітычных зняволеных, іх поўнай рэабілітацыі з пакрыццём нанесенай шкоды.

spring96.org

## Пікет супраць карупцыі мясцовых чыноўнікаў



У Баранавічах 26 снежня ад 9.30 да 10.30 грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус арганізаваў пікет супраць карупцыі мясцовых чыноўнікаў у старым парку горада з боку вуліцы Камсамольскай. Арганізатар пікету трымаў у руках плакат "Старшыні Дзічкоўскі, Язубец – непатапляемыя. Старшыня аблвыканкама Сумар абмануў Прэзідэнта. Карупцыянер у парламенце. Ганьба!!!"

– Лукашэнка 16 снежня сказаў, што ў Баранавіцкім райвыканкаме некаторыя супрацоўнікі адпачываюць пад афрыканскім сонцам за бюджэтныя грошы, выдзеленыя былым старшынём Баранавіцкага райвыканкама, а цяпер дэпутатам Палаты прадстаўнікоў М. Язубцом, – адзначыў Мікалай Чарнавус.

Грамадскі актывіст дадаў, што грошы да гэтага часу не вярнулі і вінаватыя не пакараны. Таму Мікалай Чарнавус хоча звярнуць увагу грамадскасці не толькі на карумпаванасць мясцовых вертыкальшчыкаў, але і на тое, што Брэсцкі абласны выканаўчы камітэт пакрывае і абараняе карумпаваных баранавіцкіх чыноўнікаў.

Глеб Лушынскі

## Апытанне "Intex-press": "Навошта ідуць ў дэпутаты мясцовых саветаў?"




Баранавіцкая недзяржаўная газета "Intex-press"

Баранавіцкая недзяржаўная газета "Intex-press" на сваім сайце праводзіць апытанне сваіх чытачоў, у якім прынялі ўдзел на 23 снежня 347 чалавек.

Газета пытаецца ў наведвальнікаў сайта: "Навошта, па-вашаму, ідуць ў дэпутаты мясцовых саветаў?"

73,2 % чытачоў сайта папулярнай у горадзе газеты "Intex-press" лічаць, што ў дэпутаты людзі ідуць, каб вырашаць свае асабістыя пытанні.

17 % удзельнікаў апытання адказалі, што грамадзяне ідуць у дэпутаты пад прымусам, каб фармальна запоўніць дэпутацкія месцы.

Толькі 2,6 % чытачоў сайта газеты "Intex-press" адказалі, што дэпутатамі становяцца, каб вырашаць мясцовыя праблемы і абараняць інтарэсы выбаршчыкаў.

Менш за 1% прыняўшых удзел ў апытанні паведамілі, што дэпутатамі становяцца для таго, каб кантраляваць працу выканаўчай улады.

6,4 % удзельнікаў апытання не змаглі адказаць на пастаўленыя пытанні ці прапанавалі іншыя варыянты адказаў.

Апытанне працягваецца.

Вітусь Свабодскі

ПРАКУРАТУРА

## МАЦІ АКТЫВІСТА БХД ЗВЯРНУЛАСЯ Ў ПРАКУРАТУРУ СА СКАРГАЙ НА ДЗЕЯННІ СУПРАЦОЎНІКАЎ ГАУС

Карніцкая Ірына, маці грамадскага актывіста БХД Бабея Арцёма, звярнулася ў Баранавіцкую міжраённую пракуратуру з нагоды праведзенага 18 снежняператрусу. Яна паведаміла, што двое ў цывільным прад'явілі ёй пастанову, падпісаную чалавекам са Следчага камітэта, на агляд кватэры, адмовіўшыся пакінуць копію гэтага дакумента. У пастанове было напісана, што нейкі хлопец з групай невядомых асобаў 13 снежня на плошчы Леніна канфліктаваў з асобамі небеларускай нацыянальнасці і прадпрымаў спрабу іх хуліганскія дзеянні. Каб знайсці матэрыялы і рэчы, якія дапамогуць адшукаць гэтых падазроных людзей, міліцыя і праводзілаператрус па месцы прапіскі Арцёма Бабея. Якім чынам звязаны з бойкай баранавіцкіх хлопцаў з туркменамі Арцём, Ірыне Карніцкай ніхто не растлумачыў.



У сваёй заяве пракурору Ірына Карніцкая адзначыла, што падчас агляду кватэры супрацоўнікаў міліцыі больш цікавілі паперы яе сына, чым рэчавыя доказы яго дачынення да маладзёвай бойкі. Яны, сцвярджае сп. Карніцкая, перагортвалі старыя падручнікі, разглядалі канверты, у якіх Арцёму прыходзяць газеты і лісты з аргкамітэта БХД. Міліцыянеры нават забралі асабісты кампутар жанчыны, дыскі сыноў SD, DVD, SD-R, SD-RW у колькасці 45 адзінак і бэхэдоўскую інфармацыйную літаратуру, якая, безумоўна, не мае таксама аніякага дачынення да беларуска-туркменскага маладзёвага канфлікту ў Баранавічах.

Падчас вынятку ўсіх матэрыялаў супрацоўнік міліцыі Валер Варэнік паабяцаў жанчыне, што яна можа раніцай 19 снежня забраць у ГАУС ноўтбук, які ёй неабходны для працы. Але калі Ірына Карніцкая прыйшла ў міліцыю за ноўтбукам, то з яе проста пасмяяліся і паведамілі, што зможа яго атрымаць не раней як праз месяц.

Ірына Карніцкая лічыць дзеянні супрацоўнікаў ГАУС незаконнымі па шмат якіх дзеяннях іпрычынах.

spring96.org

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## ГРАМАДСКІЯ АКТЫВІСТЫ ПАВІНШАВАЛІ ЖЫХАРОЎ БАРАНАВІЧАЎ З ДНЁМ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

Нягледзячы на афіцыйную забарону ў правядзенні пікета 10 снежня, праваабаронцы і грамадскія актывісты Баранавічаў правялі акцыю ў гонар 65-х угодкаў Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека. Актывісты раздавалі грамадзянам кніжачкі з тэкстам Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, а таксама інфармацыйныя матэрыялы, прысвечаныя праваабарончай тэматыцы.

– Сёння найперш мы вырашылі павіншаваць суддзяў суда Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы з Міжнародным днём правоў чалавека. Амаль усім суддзям і судовым выканаўцам мы ўручылі тэкты Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека. Затым такія ж тэксты Дэкларацыі і інфармацыйныя матэрыялы па праваабарончай тэматыцы раздавалі мінакам ў цэнтры горада. Людзі з зацікаўленасцю слухалі нас, бралі матэрыялы і брашуры, задавалі пытанні, – паведаміў праваабаронца Сяргей Гоўша.



Глеб Лушынскі

ЗВАРОТ

# МІКАЛАЙ СТАТКЕВІЧ НАКІРАВАЎ ІНДЫВІДУАЛЬНЫ ЗВАРОТ У КАМІТЭТ ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА ААН

У панядзелак 18 лістапада ў Камітэт па правах чалавека ААН накіравана скарга экс-кандыдата ў прэзідэнты на выбарах 2010 года Мікалая Статкевіча. Яго інтарэсы ў КПЧ прадстаўляе жонка - Марына Адамовіч.

"Дадзеная скарга з'яўляецца другім зваротам у Камітэт па правах чалавека ААН прадстаўнікамі Мікалая Статкевіча. У лютым 2011 года, Кацярына Статкевіч, дачка зняволенага, падала хадайніцтва ў Рабочую Групу ААН па адвольных затрыманнях. 19 чэрвеня 2011 г. Працоўная Група палічыла, што Беларусь парушыла правы Мікалая Статкевіча, і вынесла рашэнне, што пазбаўленне волі Мікалая Статкевіча з'яўляецца адвольным і ўяўляе сабой парушэнне арт. 9 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і арт. 9 Міжнароднага Пакта аб Грамадзянскіх і Палітычных Правах. Працоўная Група заклікала ўрад Беларусі прыняць неабходныя меры для выпраўлення сітуацыі, якія павінны былі ўключаць непасрэднае вызваленне Статкевіча і выплату адэкватнай кампенсацыі", – нагадвае statkevich.org.



Група па падрыхтоўцы цяперашняга індывідуальнага паведамлення ад імя Мікалая Статкевіча ў Камітэт па правах чалавека паказала і абгрунтавала ў скарзе цэлы шэраг парушаных Беларуссю агульнапрызнаных міжнародных стандартаў пры расследаванні і судовым разглядзе крымінальнай справы, па якой ён быў праведзены ў якасці аднаго з абвінавачаных.

"У пададзенай скарзе ўтрымліваецца просьба Камітэту па правах чалавека аб прызнанні парушанымі Рэспублікай Беларусь правоў Мікалая Статкевіча, прадугледжаных артыкуламі Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, а таксама аб рэкамендацыі Рэспубліцы Беларусь ліквідаваць наступствы дапушчаных ёю парушэнняў і даць эфектыўныя сродкі праваабароны, такія як неадкладнае вызваленне з месцаў пазбаўлення волі, спыненне палітычнага пераследу і поўная рэабілітацыя, выплата грашовай кампенсацыі", – адзначае сайт statkevich.org.

spring96.org

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# КІРАЎНІКА ПЦ "ВЯСНА" АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА З ДНЁМ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА ПАВІНШАВАЛІ БАРАНАВІЦКІЯ ПРАВААБАРОНЦЫ

Баранавіцкія праваабаронцы і грамадскія актывісты 6 снежня накіравалі каляровыя паштоўкі Алесю Бяляцкаму, у якіх павіншавалі праваабаронцу-палітвязня з 65 угодкамі прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

– Мы напісалі Алесю Бяляцкаму, што Дзень правоў чалавека – гэта міжнароднае прызнанне важнасці працы ў праваабаронцаў. Мы адзначылі ў сваіх лістах, што Алесь Бяляцкі, як ніхто іншы, абараняе нас нават з-за кратаў. Безумоўна, мы пажадалі спадару Алесю, каб у яго цяперашнім нялёгкім жыцці было шмат больш светлых і радасных дзён, – паведаміў праваабаронца Сяргей Гоўша.




Актывісты напісалі Алесю Бяляцкаму, што Баранавіцкі гарвыканкам на працягу апошніх трох гадоў не дае дазволу на правядзенне грамадска-палітычных мерапрыемстваў, прысвечаных прапагандзе ідэй Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Нягледзячы на гэта, грамадскія актывісты знаходзяць магчымасці, каб не толькі распавесці грамадзянам пра ідэі правоў чалавека, але і пра неабходнасць вучыцца абараняць іх у паўсядзённым жыцці.

Вітусь Свабодскі

## Віншаванні палітвязням з надыходзячымі святамі



Баранавіцкія грамадскія актывісты 21 снежня падпісалі і адправілі поштай каляровыя віншавальныя паштоўкі з Раством Хрыстовым, Калядамі і надыходзячым Новым 2014 годам Мікалаю Статкевічу, Алесю Бяляцкаму, Мікалаю Аўтуховічу, Эдуарду Лобаву, Мікалаю Дзядку, Ігару Аліневічу, Яўгену Васьковічу, Арцёму Пракапенка і Андрэю Гайдукову.

У сваіх паштоўках баранавіцкія праваабаронцы, актывісты Руху "За свабоду", Аб'яднанай грамадзянскай партыі, кампаніі "Гавары праўду" пажадалі палітвязням моцнага здароўя, аптымізму, шчасця, веры ў лепшую будучыню і надзеі, што хутка "загляне сонца і ў наша ваконца". Таксама праваабаронцы і грамадскія актывісты выказвалі спадзяванне, што надыходзячы Новы 2014 год спраўдзіць мары ўсіх палітвязняў пра вызваленне.

– У сувязі з тым, што палітвязні Васіль Парфянкоў і Уладзімір Яроменак толькі-толькі памянялі сваё месцазнаходжанне, то вырашылі пасляць ім каляровыя паштоўкі з надыходзячымі святамі непасрэдна перад Новым 2014 годам, – адзначыў Віктар Сырыца.

## У ГАУСе Баранавічаў правялі з Рыгорам Грыкам прафілактычную размову



Кіраўнік Баранавіцкай гарадской прафсаюзнай групы РЭП Рыгор Грык 10 снежня быў выкліканы ў ГАУС на прафілактычную размову.

– Шэсць месяцаў таму мяне ўжо выклікала для размовы начальніца ідэалагічнага аддзела Баранавіцкага гарвыканкама Таццяна Жытко, каб пераканаць ў неабходнасці спынення грамадска-палітычнай дзейнасці, – паведаміў Рыгор Грык.

Цяпер прафсаюзнага актывіста выклікалі на размову ў грамадскі пункт аховы правапарадку № 3 (вул. Касманаўтаў, 6) ГАУС. Старэйшы лейтэнант міліцыі Аляксандр Зяньковіч паведаміў Рыгору Грыку, што на імя начальнікаа ГАУС палкоўніка Вячаслава Герасімовіча паступіла заява ад загадчыцы аддзела ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Баранавіцкага гарвыканкама Вольгі Дудко. У гэтай заяве паведамляецца, што невядомыя асобы распаўсюджваюць у гарадскім транспарце і расклеіваюць на гарадскіх прыпынках недзяржаўныя газеты і ўлёткі.

На пытанне супрацоўніка міліцыі: “Ці расклеіваў Рыгор Грык газеты і ўлёткі?” грамадскі актывіст адказаў, што ён не парушае грамадскага парадку, а ўсё робіць па закону.

Вітусь Свабодскі

ПРАВЫ ПРАЦОЎНЫХ

# ДАКЛАД FIDH І ПЦ “ВЯСНА”: “ПАЎСЮДНЫЯ ПАРУШЭННІ ПРАЦОЎНЫХ ПРАВОЎ І ПРЫМУСОВАЯ ПРАЦА Ў БЕЛАРУСІ”

## Парыж-Мінск, 10 снежня 2013 года

Тэма вытворчых і працоўных адносінаў востра гучыць у Беларусі і з'яўляецца асабліва актуальнай у апошні час. Практычна кожны дзень СМІ публікуюць інфармацыю пра працу студэнтаў на будаўніцтве спартыўных аб'ектаў, увядзенне ў эксплуатацыю якіх прымеркавана да міжнароднага чэмпіянату па хакеі, пра працу вайскоўцаў на ўборцы ўраджаю, а мясцовыя ўлады рапартуюць пра праведзеныя ў гарадах “суботнікі”.

Сумесны 80-старонкавы даклад FIDH і ПЦ “Вясна”, які прадстаўляецца ў Мінску ў Міжнародны дзень правоў чалавека, канстатуе глыбокі крызіс у сацыяльна-эканамічнай сферы і паўсядзённыя парушэнні працоўных правоў грамадзянаў Беларусі.

Падрыхтаваны ў выніку міжнароднай даследчай місіі, якая наведала некалькі рэгіёнаў Беларусі ў чэрвені 2013 года, даклад асвятляе шырокамаштабныя парушэнні сацыяльных і эканамічных правоў беларускіх грамадзянаў.

Правы прафсаюзаў пастаянна парушаюцца ў Беларусі. Створаны шматлікія перашкоды пры стварэнні незалежных прафсаюзаў, а іх сябры падвяргаюцца сістэматычнаму пераследу. Шэраг заканадаўчых актаў замянілі бестэрміновыя працоўныя дамовы на кароткатэрміновыя кантракты, паставіўшы працоўных у становішча поўнай залежнасці ад іх наймальніка, які надзелены правам непадаўжэння працоўнага кантракту без усялякіх тлумачэнняў і выплат кампенсацый. Больш за 70% працоўных у краіне працуюць па кароткатэрміновых працоўных кантрактах, заключаных на адзін-тры гады.

Прымусовая праца шырока распаўсюджана ў Беларусі, у розных сектарах і разнастайных формах. Дэкрэт Прэзідэнта № 9 ”Аб дадатковых мерах па развіцці дрэваапрацоўчай прамысловасці” 2012 года пазбаўляе працоўных магчымасці спыніць працоўныя адносіны па ўласнай ініцыятыве. Пры нясенні вайсковай службывайскоўцы прыцягваюцца да неаплатнай працы, не звязанай з выкананнем воінскага абавязку. На нацыянальным, а таксама рэгіянальным і мясцовым узроўнях усяму працоўнаму насельніцтву рэгулярна навязваецца “добраахвотная” неаплатная праца (у рамках арганізаваных суботнікаў).

Вялікую заклапочанасць выклікае ўстойлівая дыскрымінацыя і стыгматызацыяасобаў з алкагольнай або наркатычнай залежнасцю і прыцягненне іх да прымусовай працы. Да прымусовай працы прыцягваюцца і зняволеныя ў розных месцах пазбаўлення волі. У выпадку нявыплаты выдаткаў на ўтрыманне дзяцей, якія знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні, бацькі (“абавязаныя асобы”) у судовым парадку падлягаюць прымусовай працы, пры гэтым аж да 70% іх заробку адбіраецца ў дзяржаўны бюджэт. За адмову ад такой працы прадугледжаная як адміністратыўная, так і крымінальная адказнасць.

Гэтымі рэпрэсіўнымі метадамі дзяржава замяніла неабходныя меры па сацыяльнай рэабілітацыі ўразлівых группаў насельніцтва. Замест забеспячэння хворым людзям сур'ёзных дзяржаўных медыцынскіх праграмаў, дзейнае заканадаўства сурова карае іх, звяртаючыся да недапушчальнай з пункту гледжання міжнародных нормаў арсеналу сродкаў, што не вядуць да таго ж да эфектыўнай барацьбы з алкагалізмам і наркаманіяй. Дзеючае заканадаўства і практыка таксама дыскрымінуюць так званых”асацыяльных элементаў”.

Выпускнікі дзяржаўных устаноў размяркоўваюцца на працу пасля сканчэння вучобы аж да трох гадоў. Размеркаванне не падлягае абскарджанню, а пазбегнуць яго можна толькі вярнуўшы дзяржаве кошт навучання, прычым кошт налічваецца дзяржавай непразрыста і з улікам інфляцыі прыводзіць да сумаў, якія многія выпускнікі не ў стане выплаціць. Канстытуцыя РБ пры гэтым гарантуе ў артыкуле 49: “Сярэдняя спецыяльная і вышэйшая адукацыя даступная для ўсіх у адпаведнасці са здольнасцямі кожнага. Кожны можа на конкурснай аснове бясплатна атрымаць адпаведную адукацыю ў дзяржаўных навучальных установах”.

Асабліва павінна быць адзначана, што рэпрэсіўная практыка ў сферы працоўных адносінаў прыводзіць да дыскрымінацыі асобаў, якія займаюць крытычную пазіцыю ці якія займаюцца палітычнай дзейнасцю.

29 лістапада 2013 года Камітэт па эканамічных, сацыяльных і культурных правах ААН у сваіх заключных заўвагахадлюстраваў[1]праблему прымусовай працы і парушэнні працоўных правоў, паднятую ў прадстаўленай FIDH і ПЦ “Вясна” ў Камітэт справаздачы. У прыватнасці Камітэт адназначна запатрабаваў ад Беларусі перагледзець сістэму кароткатэрміновых кантрактаў, адмяніць прымусовую працу асобаў з алкагольнай і наркатычнай залежнасцю і “абавязаных асобаў”, пераглядзеўшы адпаведнае заканадаўства, забяспечыць свабодную дзейнасць прафсаюзаў і распачаць шэраг пазітыўных мераў па забеспячэнні рэальнай і эфектыўнай сацыяльнай абароны правоў насельніцтва Беларусі.

spring96.org

“ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК” Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь

**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы - звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў

весніk ПРАВАБАРОНЧЫ